# Профіль Беларускай Жанчыны



*Др. Раіса Жук-Грышкевіч*

Міжнародны год жанчыны ўжо мінуў. Беларусы Канады адзначылі гэты год спэцыяльнай акадэміяй у Торонто. Мне прышло на думку падаць профіль беларускай жанчыны ў Канадзе. Мы маем тут шмат жанчын, якія прысьвяцілі многа часу й энэргіі для беларускай грамадзка-нацыянальнай справы. Я ўважаю, што было-б вельмі пажадана й карысна, падаць прафілі іх дзейнасьці на балонках нашае прэсы.

Пачынаю ад Др. Раісы Жук-Грышкевіч, як адной з найстарэйшай беларускай эміґранткі ў Канадзе й вельмі энтузыястычнай грамадзкай дзеячкі. Раіса нарадзілася ў Пружанах на Палесьсі ад сьведамых беларускіх бацькоў, каторыя й прышчапілі ёй любоў да сваёй роднай мовы й да свайго народу. Па заканчэньні польскай гімназыі ў 1938-м годзе Раіса распачынае студыі права на Віленскім Унівэрсытэце й адначасна наведвае лектарат беларускай мовы. Яна таксама належала да Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні. У 1939-м годзе распачынаецца вайна. Віленскі Унівэрсытэт зачыняецца. Раіса працуе цяпер настаўніцай ў беларускай школе, дзе выкладае беларускую мову. Гэта дало ёй вялікую нагоду, нягледзячы на няспрыяльныя палітычныя абставіны, вучыць дзяцей беларускіх танцаў, дэклямацыяў ды песень. На гэты пэрыяд часу прыпадае, так самą пачатак яе нацыянальна-грамадзкай працы. У 1942-м г. Раіса ўжо ў Нямеччыне, гдзе яна распачынае студыі дэнтыстыкі на Бэрлінскім Унівэрсытэце. У 1945-м годзе Раіса ўжо ў Заходняй Нямеччыне ў Ватэнштэце, у беларускім лягеры Д.П. Беларускі лягер Ватэнштэт быў вядомы са сваёй добра зарганізаванай грамадзка-культурнай працы. У лягеры была свая школа, свая Царква, беларускі скаўтынг, свая прэса, ладзіліся культурна-мастацкія вечары, а – усё гэта было ўдзячным полем для дзейнасьці Раісы.

Аднак думка, аб заканчэньні дэнтыстычных студыяў, ніколі не пакідала Раісу. Неўзабаве яна залічваецца ў лік студэнтаў Марбурскага Унівэрсытэту на факультэт дэнтыстыкі, які пасьпяхова закончыла ў 1948-м г. У наступным годзе мы бачым Раісу ўжо ў Канадзе. Пры Таронтскім Унівэрсытэце яна настрыфікуе свой дыплём. У 1954-м годзе атрымлівае навуковы стопень Доктара Дэнтыста з правам практыкі на тэрыторыі Канады.

Ад 1954-га году да 1956-га пражывае ў Мюнхэне, гдзе яе муж Др. В. Жук-Грышкевіч быў дырэктарам беларускай сэкцыі радыя *Вызваленьня*. У 1957-м годзе Раіса распачынае дэнтыстычную працу ў Бары. Тут побач з профэсыйнай працай Доктара Дэнтыстыкі яна ўключаецца да працы грамадзка-беларускай. Уступае да Згуртаваньня Беларусаў Канады й становіцца актыўнай сяброўкай арганізацыі; запісваецца да Канадыйскай Фэдэрацыі Жанчынаў з Унівэрсытэцкай Асьветай, дзе прапагуе ідэі свайго народу. Вельмі актыўная ў *Сарантыміст* Клюбе гдзе з'яўляецца *publicity conveener*, што дае ёй нагоду пісаць да лёкальнай прэсы. На балонках *Barry Examiner* Раіса друкуе артыкул аб *Беларускіх Калядах*.

Хвароба мужа абмежавала ейную грамадзкую працу, але не на доўга. Ужо ў 1965-м годзе выбіраюць Раісу сакратаром Галоўнай Управы ЗБК ды Коардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. У гэтым-жа годзе Раіса засноўвае Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Канадзе. Яна выбіраецца Старшынёю Згуртаваньня Б.Ж. на працягу пяці гадоў. У 1972-м годзе Раісу выбіраюць Старшынёй ЗБК. Гэтую працу яна выконвала з вялікім энтузыязмам і вялікім укладам энэргіі. Падчас сваёй працы ў Галоўнай Управе ЗБК, Раіса upaрадкавала архіў арганізацыі й фактычна сталася ягоным архіварыусам. Ейныя імкненьні былі накіраваны на вывучэньне гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі. У гэтымжа часе Раіса навязвае лучнасьць з дзяржаўнымі дзейнікамі Канады: прыймае ўдзел у шматлікіх канфэрэнцыях *Ontario Heritage*, а пасьля абʼяўленьня Урадам Канады палітыкі *Двухмоўнасьці* і *Шматкультурнасьці* у Канадзе, Міністар Фэдэральнага Ураду Др. С. Ґайдас вызначае Раісу прадстаўніком ад беларусаў у Консультацыйную Раду для справаў *Шматкультурнасьці*, якім яна застаецца й да сяньняшняга дня. У значнай меры Раіса спрычынілася й да атрыманьня „Грэнт" на выданьне беларускага падручніка. Спадарыня *Margaret Campbell*, Старшыня Камітэту для справаў *Шматкультурнасьці* ад Лібэральнай Партыі на Онтарыо запрасіла Раісу, як прадстаўніка ад беларусаў, у свой Кабінэт.

Цяжка пералічыць усе дэталі ейнай дзейнасьці. Я тут падала толькі найбольш важныя мамэнты працы Др. Раісы Жук-Грышкевіч. Чаму я аб гэтым пішу? Магчыма таму, што мне як жанчыне, хочацца каб і нашая жаночая дзейнасьць ды наш актуальны удзел ў беларускім жыцьці, быў успамянуты й належна ацэнены.

Людміла Рагуля

## 25-ы Сакавік у Ню Ёрку

*Працяг з 5-й бачынкі*

прамаўляў ад імя Згуртаваньня Беларускай Моладзі. Танцавальны Гурток Моладзі ўдала выканаў некулькі беларускіх народных танцаў. Найбольш прыхільна й цёпла была ўспрынята публікай мастацкая частка акадэміі – песьні:
1. Дуэты Сп-яў Лізы Маркоўскай і Галіны Тэдонэ-Дарашэвіч,
2. Жаночы Ансамбль,
3. Мешаны хор пад кіраўніцтвам Спадара Міхася Тулейка.

Акадэмія закончылася адсьпеваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну.



# „САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА"

*Працяг з папярэдняга нумара*

Разьвіваючы спаборніцтва „15 рэспублік – 15 ударных вахт", – рабочы клас, інжынерна-тэхнічная інтэлігенцыя сталіцы Беларусі дапоўніла яго новай ініцыятывай. „Насустрач 50-годзьдзю ўтварэньня СССР – 17 этапаў барацьбы за вышэйшую прадукцыйнасьць працы й выдатную якасьць прадукцыі". Мінчане правялі па аднаму працоўнаму тыдню – у гонар Масквы, кожнай саюзнай рэспублікі й СССР у цэлым, даўшы краіне вялікую колькасьць разнастайнай прамысловай прадукцыі". „Краіне" – гэта значыць – СССР пад дыктатарскім зьверхніцтвам Масквы. Бо ў чый-бы „гонар" ні спаборнічалі, прадукцыяй таго спаборніцтва распараджаецца Масква.

*„Збудаваў я палац,*
*Многа фабрык, мастоў, –*
*Сам-жа голы як бац,*
*Пара-дзьве лахманоў."*

Гэтыя Купалавы словы ня трацяць актуальнасьці, – яны цяпер яшчэ лепш пасуюць да горкай запраўднасьці.

Дзіва трэба, да якога абсурду даходзіць агітпроп у пахвальбе гэтага „спаборніцтва". „Трэба адзначыць, – пішуць Калеснік з Лычом, – што ў рэспубліцы штогод рацыяналізатары робяць звыш ста тысяч прапановаў і вынаходзтваў, якія садзейнічаюць лепшай арганізацыі працы й вытворчасьці". Вось яно! Сто тысяч, і то кажнага году! Але што ўлічана ў тыя вынаходы, сказаць было-б брыдка. Гаворыцца толькі, што ўсяе гэтае, сацыялістычнае гаварыльні замала, каб усьцяж рухаць і ўздымаць гэтае спаборніцтва.

Давялося ўхапіцца за старыя „буржуазныя" спосабы, і да сьмехаты карыкатурна ўжываць іх. Навыдумлялі безьліч тытулаў, як: Чырвоны барацьбіт, Ударнік пяцігодкі, Лепшы інжынер, Лепшы тэхнік, Майстар 1-га класу, 2-га, ды розных іншых „ударных". Таксама нарабілі розных ардэноў, ды розных адзначальных знакоў. Пад гэтым паглядам бальшавікі далёка выперадзілі былыя царскія ўрады. У БАЛСЭ (Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі) пададзена 33 ардэны й 47 мэдаляў – гэта ўжо „творчасьць" Масквы. Наагул-жа, бальшавікі вельмі часта малпуюць звычаі й уклады „ненавісных капіталістаў" ды выдаюць гэта за „камуністычныя дасягненьні".

У артыкуле паведамляецца: „Уладальнікам гэтых званьняў напрацягу аднаго году выдаецца персанальная надбаўка да заплаты – да 30% службовага акладу, уручаецца Ганаровая грамата, а таксама аднаразовая прэмія ў памеры палавіны месячнага заробку. Спэцыялістам, якія не ўдастоіліся такіх званьняў, але пасьпяхова выканалі свае асабістыя творчыя пляны, налічваюцца надбаўкі да заплаты ў памеры ад 10 да 20 рублёў". Аднак-жа, навет інжынерны заробак месячны, разам з усімі гэтымі „падмазкамі", ня можа дараўнацца да тыднёвага заробку звычаўнага амэрыканскага работніка. Вынікі гэтага спаборніцтва такія, што кажная пасланая ў СССР звычайная амэрыканская тканіна мае там надзвычайную вартасьць, што бальшавікі запрошваюць „капіталістых" будаваць ім фабрыкі й заводы й што, каб не дапусьціць да агульнага голаду, мусяць купляць хлеб шматлікімі мілёнамі тон у тых-жа капіталістых. І гэта для краіны, хлебадайныя плошчы якой далі-б магчымасьць надбаць хлеба насельніцтву ўсяе Эўропы.

Выхваляючы гэтае сацыялістычнае спаборніцтва, ставячы ў прыклад некаторыя прамысловыя прадпрыемствы, дзе спаборніцтва нібы спрычыняецца да павялічэньня колькасьці й якасьці прадукцыі, аўтары разглядданага артыкулу сказалі і сваё „але": „Аднак у павышэньні якасьці прадукцыі далёка ня ўсе прадпрыемствы рэспублікі дабіваюцца плёну. На гэта была зьвернута самая сур'ёзная ўвага на XIII пленуме ЦК КПБ. Адзначалася, напрыклад, што ў прамысловасьці будаўнічых матар'ялаў удзельная вага прадукцыі вышэйшай якасьці складала толькі 0.1%, лёгкай – 1.8%, лясной і дрэваапрацоўчай – 2%, харчовай – 2.1%, мясцовай – 3%. Адсюль вынікае, якія вялікія задачы стаяць сёньня перад гаспадарчымі, партыйнымі й прафсаюзнымі арганізацыямі". Лепш было-б сказаць – *адусюль* замест *адсюль*. І дарэчы будзе дадаць, што заданьні падсавецкіх прафсаюзаў – таксама падганяць работнікаў да працы, а не абараняць іх ад эксплятацыі й вызыску, у дадзеным выпадку – дзяржаўным. Як відаць з гэтай „самай сур'ёзнай увагі", падобная якасьць прамысловай прадукцыі характэрная, як для БССР, так і ўсяго СССР. І ня глядзя на тое, што паказаная нізкая якасьць прадукцыі сталася ў цягу й выніку таго спаборніцтва, заданьні агітпропу патрабуюць і далей бясконца паўтараць лухту, што „У вырашэньні іх (тых „задач" – 3–кі) рашаючую ролю можа й павінна адыграць правільна арганізаванае спаборніцтва".

Калеснік і Лыч падаюць, што спаборніцтва набывае ўжо азнакі ўсенароднай „ударнасьці". „Усенароднасьць сацыялістычнага спаборніцтва

# З УСПАМІНАЎ

Нам Беларусам даводзіцца часам чуць непраўдзівыя заявы, робленыя прэсавымі камэнтатарамі. Як прыклад можа служыць факт зьменаў межаў Беларусі пры падзеле Польшчы паводля ўмовы Рыбэнтроп-Молатаў у 1939 годзе. Ня ведаючы гісторыі Беларусі некаторыя журналісты цьвердзяць, што Савецкі Саюз акупаваў частку Польшчы, што не адказвае запраўднасьці. Паводле успомненае ўмовы заходнія часткі Беларусі былі далучаны да ўсходняй Беларусі. Землі Заходняе Беларусі нікалі ня былі польскімі.

На Вэрсальскай канфэрэнцыі 1919 году, калі разглядалася справа межаў эўрапейскіх краінаў, дык заходняя мяжа Беларусі была ўстаноўлена па г. зв. лініі Кэрзона. Толькі пазьней, у выніку вайны паміж бальшавіцкаю Масквою з Пальшою паводле Рыскага трактату з 18 сакавіка 1921 году, Беларусь была падзелена й заходняя яе частка папала пад польскую акупацыю. Праз 18 гадоў на аснове дамоўленасьці Савецкага Саюзу з Гітляроўскай Нямеччынай у верасьні 1939 году, Саветы далучылі Заходнюю Беларусь да БССР, а немцы акупавалі ўсю Польшчу. Такім чынам 18 гадовая акупацыя Заходняй Беларусі Польшчай не дае права лічыць гэтыя землі польскімі.

Польская акупацыя нічым ня розьнілася ад акупацыі расейскай. Адразу была ўстаноўлена польская адміністрацыя з урадаваю польскаю моваю. Школьніцтва пераходзіла на польскую мову навучаньня, а існаваўшыя перад акупацыяй беларускія школы зачыняліся. Акупацыйныя войскі й паліцыя захоўваліся з пагардай да беларускага насельніцтва, таму новая акупацыя цярпелася з непрыязнасьцю й паўставалі канфлікты. У некаторых акругах паўставала партызанскае змаганьне. Апрача гэтага, польская адміністрацыя пачала перакідаць з Польшчы ваенных асаднікаў на тэрыторыю Беларусі, што выклікала незадаваленьне беларускага насельніцтва. Свае адносіны да польскае акупацыі Заходняя Беларусь выказала падчас першых выбараў у польскі Сойм у 1922 годзе, калі беларусы выбралі сваіх 17 паслоў. А як гэта было роблена можа паслужыць прыклад выбараў у нясьвіскім павеце.

Перад выбарамі кандыдаты на беларускіх пасло ў наведвалі гарады й мястэчкі, пераважна ў часе кірмашоў, дзе зьбіралася большая колькасьць сялянаў. Звычайна на рынковай плошчы выступалі з прамовамі ў беларускай мове паслы з беларускага сьпіску, якія энтузыястычна прымаліся слухачамі. Прыкладам у м. Клецку беларускія паслы наведвалі выдатнага беларускага дзеяча, праўніка Ігната Чарапавіцкага, ў якога мясьцілася галоўная кватэра. У ягоным доме заўсёды поўна было акалічных правадыроў, дзе яны атрымоўвалі выясьненьні й білеты да галасаваньня.

У 1920 годзе ў м. Клецку была зарганізавана Клецкая Коэдукацыйная Беларуская Гімназія. У гэтай гімназіі вучыліся дзеці жыхароў мястэчка і шмат навакольнае сялянскае моладзі: з Клецкае, Грыцавіцкае, Заастравецкае, Сіняўскае, Ляхавіцкае, і Ланскае гмінаў і вучні з іншых гмінаў Нясьвіскага павету. Гімназыяльнай моладзі было паручана узяць удзел пры выбарах да Сойму. Да іхняй працы належала справа раздачы выбарчых білетаў. Блёку Нацыянальных Меншасьцяў (№16) жыхаром сваёй і акалічных вёсак. Перад галасаваньнем вучні атрымалі торбы з карткамі, вярталіся да сваіх прыдзеленых акругаў, абыходзілі вёскі й даручалі кожнаму выбаршчыку беларускія нумары з тым, каб яны гэтыя нумары клалі ў атрыманыя канвэрты й апускалі ў урну.

Як пазьней аказалася, на сталох Выбарчае Камісыі ня было зусім нумароў Б.Н.М., але беларускія сяляне загадзя мелі свае білецікі й заходзячы ў будку да галасаваньня, атрыманыя білецікі Польскага Дзяржаўнага Блёку клалі ў кішэню, а адтуль даставалі свае нумары, клалі ў канвэрты й апускалі ў урну. Пасьля падліку галасоў аказалася, што масу галасоў атрымалі прадстаўнікі Б.Н.М. Польскія ўлады былі гэтым фактам заскочаны й ашаломлены. Такім чынам у першы польскі Сойм Беларусы правялі 17 паслоў.

Гэта быў фармальны плебісцыт, калі Заходняя Беларусь акупаваная Палякамі паказала сваё нацыянальнае й палітычнае аблічча, а таксама супраціў польскім акупацыйным уладам.

В. Раманчук

# ЭЛЗА ЗУБКОВІЧ



ПРАФЭСАРА ЭЛЗУ ЗУБКОВІЧ, ВЫДАТНАГА ВІРТУОЗА – МУЗЫКА Й КАМПАЗЫТАРА, ды адданага працаўніка на ніве Беларускага Мастацтва, вітае з восемдзесятым годзьдзем жыцьця, і шчыра жадае дастойнай Юбілярцы доўгага жыцьця й многа посьпехаў у далейшай Ейнай працы.

Рэдакцыя газэты „Час"

*Наталья Арсеньева*

## ТОЛЬКІ ГЭТКІМ, ЯК ТЫ...

Дарагой сп-ні Э. Зубковіч
на 80-я Ўгодкі жыцьця.

*Шмат мэлёдыяў звонкіх жыве на зямлі,*
*бездань песьняў лясное стварэньне*
*шлець а шлець із вятрамі на пушчы, палі,*
*ажно ў сэрцах запусьцяць карэньне.*

*І ня знойдуць такія спакою нідзе,*
*будуць біцца, крывавячы крылы,*
*і ўзьлятаць, і зрывацца, у шчасьці, ў бядзе*
*па няўцямным тужыць, па забылым.*

*Каму собіць мець гэткае сэрца ў грудзёх,*
*пражыве з намі век свой да скону*
*быццам тутка й ня жыў, быццам нашых дарог*
*не таптаў,*
*ад калыскі бо звоніць*
*яму песьняю лётнай навокал усё,*
*песьню гэткі пачуе і ў плачы,*
*як нікому, шасьціць дзіваку каласьсё,*
*і ўсё чыста вітае іначай.*

*Дні ў пустой мітусьні, у пакуце, нудзьбе*
*не, ня гнуць у дугу, не нявечаць музыкі.*
*Ці-ж ня гэткі і Твой,*
*Юбілярка,*
*надзел,*
*Лёс ня шчасны мо', але вялікі?*

*Гэта-ж Ты, пакуль захад зыркі не астыў,*
*рассыпаеш па клявішах вечару гукі,*
*паўтараем бярэзьнікаў рэчытатыў,*
*грэеш песьняю новаю рукі!*

*Гэта-ж Ты імкнешся ў музыку выліць і зьзянь*
*чалавечых узьлётаў,*
*і стынь адцьвітаньняў,*
*песьняй душы людзкія над багнай узьняць,*
*памагчы нам піць радасьць і гора дазваньня...*

*Дык жыві!*
*Дык твары!*
*Не губляй, ідучы*
*побач з намі таго, што ня кожны з нас мае.*
*Толькі-ж гэткім, як Ты,*
*хай няўзнак,*
*а ручыць*
*неспазнаная доля зямная!*

праяўляецца і ў тым, што ім ахопліваецца усё больш і больш работнікаў нематарыяльнай сфэры вытворчасьці. Напярэдадні сёлетняга году (г. значыць – 1974) Савет Міністраў БССР і Белсаўпроф прынялі пастанову „Аб арганізацыі рэспубліканскага сацыялістычнага спаборніцтва за лепшую пастаноўку культурна-масавай работы сярод насельніцтва". Што значыць „культурна-масавая работа" пабальшавіцку? Перадусім сюды ўваходзіць антырэлігійная акцыя, немалое месца займае й шырэньне людзкое нянавісьці – гэта перадусім адносіцца да „варожых элемэнтаў", у некалькі разоў больш, як прыхільных да бальшавізму. Дык абвяшчаецца спаборніцтва ў самым агітпропе.

Крамлёўскія завадатары, трымаючыся „культу Ільліча" й выконваючы яго запаветы, намагаюцца ахапіць спаборніцтвам увесь народ і ўшчаміць работніка так, каб ён ніяк ня мог рухацца па сваёй волі, але, як матор, паслухоўваўся толькі свайго завадатара. І ўводзіцца спаборніцтва ступенна-прагрэсыўнае: пачынаючы ад індывідуальнага – работнік з работнікам, – далей, фабрыка з фабрыкай, места з местам, вобласьць з вобласьцю, рэспубліка з рэспублікай – потым усе за СССР і нарэшце – за Маскву. Нездарма Брэжнеў пахваліўся на супольным паседжаньні ЦК КПСС, Вярхоўнага Савету СССР і Вярхоўнага Савету РСФСР, прысьвечаным 50-лецьцю ўтварэньня СССР: „Эканоміка Савецкага Саюзу – гэта ня сума эканомік асобных рэспублік і абласьцей. Гэта ўжо даўно адзін гаспадарчы арганізм, які склаўся на аснове агульных эканамічных мэт і інтарэсаў усіх нацый і народнасьцей". Часамі Беларус кляне таго, хто нагла лжэ: – „Каб ты так дыхаў, колькі гэта праўда!" – і, што гэта ў інтарэсах *усіх нацыяў і народнасьцяў*.

Спаборніцтва гэтае й яго прадукцыя бязумоўна ў інтарэсах Масквы. Бо ня толькі прадукцыяй фабрычнай распараджаецца Масква, але навет і выкапаную бульбу ў калгасах у „сувэрэннай" БССР адразу з поля адгружаць на Маскву. І ніводная з гэтых „сувэрэнных" рэспублік ня ўводзіла-б таго эксплятацыйнага спаборніцтва ў сябе бяз дыктату Масквы, як няма яго нідзе па сьвеце. І толькі ў ленінскім імпэрскім прыгонным „сацыялізьме" гэты спосаб патрэбны й неабходны.

З – кі

Рэдакцыйная Калегія выказвае шчырую падзяку ўсім падпісчыкам і ахвярадаўцам, якія прыслалі дапамогу на фонд газэты „БЕЛАРУСКІ ЧАС".

АБВЕСТКА

Вышла з друку й прадаецца 1-ая частка кніжкі Аўгеня Калубовіча: *„МОВА Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА"*. Цана кніжкі 2 даляры. Адрас:

Mr. Eugen Kochanovski
27654 Hollywood Drive
Westlake, Ohio 44145

# Лісты ў Рэдакцыю

Глыбокашаноўны Др. Расьціслаў Гарошка!

Я лічу, што нельга не павітаць нараджаньня яшчэ аднаго беларускага друкаванага органа, каторы вядзе барацьбу за адноўленьня нацыянальнай Свабоды й дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. У гэты час, і, у нашых умовінах, друк зьяўляецца аграмаднай зброяй, а адначасна з гэтым і голасам ня толькі беларускіх патрыётаў за межамі іх бацькаўшчыны, але й усяго беларускага народу, які ў умовінах маскоўска-камуністычнага паняволеньня ня можа выяўляць сваю свабодную волю й адкрыта гаварыць аб сваіх нацыянальных ідэалах. Асабліва важны й цэнны друкаваны матэр'ял у *Беларускім Часе* па ангельску. Гэта дае магчымасьць ня толькі папулярызаваць у англо-саксонскім сьвеце Беларускае Пытаньне, але адначасна з гэтым здабываць прыяцеляў і сымпатыкаў Беларускага Народу ў яго сьвятой барацьбе за Свабоду.

З глыбокай пашанай да Вас,

Др. В. Г. Глазкоў
Старшыня Галоўнага Казачага Прадстаўніцтва

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

У нумары 222-ім газэты *Беларус* за кастрычнік 1975-га г. быў зьмешчаны артыкул „Зь гісторыі перакладу Евангельля", падпісаны ініцыяламі Я.З.

У гэтым артыкуле мяне вельмі зьдзівіла вестка, пісаная курсіўным шрыфтам, што быццам на тэрыторыі Заходняй Беларусі „Тысячы селянаў адварочваюцца ад традыцыйных Божых Службаў Расейскай Праваслаўнай Царквы ды праводзяць сходы евангелічнага тыпу, ведамыя на працягу апошняга паўстагодзьдзя у Англіі й З.Ш.А. Асаблівай папулярнасьцяй карыстаюцца адроджаныя рэлігійныя песьні". „Гэткія Багаслужбы сярод вернікаў нагэтулькі папулярныя," пісаў карэспадэнт Лёндынскага *Таймсу,* на якога паклікаецца Я.З., „што калі я ў адным сяле прамаўляў да сходу дык мясцовая царква зусім апусьцела." Трэба толькі дзівіцца з вялікай неаб'ектыўнасьці Лёнданскага *Таймса*.

Цьверджаньня Дёнданскага *Таймса,* а яшчэ ў большым стопні карэспадэнта газэты *Беларус,* далёка не адказвае запраўднасьці. Мне асабіста ведама многа фактаў, якія якраз прамаўляюць супраць пераходу праваслаўных беларусаў на „баптызм" ці іншыя хрысьціянскія сэкты ды яшчэ й „масава" і зь вялікім „энтузыязмам".

Бадай што у ўспомненым 1926-м годзе завітаў у мястэчка Клецк мэтадыскі Пастар Вітт. У гэтым часе ў Клецку працавала Беларуская Гімназыя. Гімназыя знаходзілася ў вельмі цяжкіх матар'яльных умовінах. Настаўнікі працавалі ахвярна, задавальняючыся вельмі нізкім жыцьцёвым пайком. Пастар Вітт адведаў Дырэктара Гімназыі Грыгора Якубёнка й запрапанаваў матар'яльную дапамогу для арганізацыі інтэрнату для хлапцоў. Па дамоўленнасьці Пастар Вітт аплачваў прымешчаньне пад інтэрнат і працу кіраўніка інтэрнату. Адзін раз на месяц Пастар Вітт прыезджаў зь Вільна да Клецка, пераважна ў нядзелі, ды пасьля Службаў Божых ў праваслаўнай царкве Пастар Вітт праводзіў свае мэтадзіскія службы.

Характэрна, што пасьля шасьці гадоў місыянерскай працы Пастара Вітта, ніводзін праваслаўны беларус не зьмяніў сваёй рэлігіі. Можна-б было прывесьці многа іншых прыкладаў, якія прамаўляюць за тым, што місіянерская праца розных евангельскіх сэктаў напаткала на сваім шляху вялікі супраціў з боку беларускага селяніна. Вельмі цяжкое сацыяльнае паложаньне беларуса пад польскай акупацыяй з аднаго боку, абмежаваныя магчымасьці эміграцыі ў заходнія краіны Эўропы й З.Ш.А. й Канады з другога – былі галоўнымі прычынамі, што частка беларускай моладзі была змушана ўключыцца ў шэрагі розных евангельскіх сэктаў. Але рабілі гэта бяз ўсякага „энтузыязму" і не „масава", а спарадычна-індывідуальна, Сёньня пераважная большасьць гэткіх „Гэрояў ды палітычна-нэйтральных сэктантаў" загінулі для беларускага народу назаўсёды: – яны папоўнілі шарэгі евангельскіх групаў іншых нацыянальнасьцяў, а перадусім расейскіх. Толькі малая частка беларусаў-евангелістых, высока інтэлігэнтных, нацыянальна сьведамых ды ідэйных змагароў за рэлігійную свабоду засталіся вернымі запаветам Божым ды пасьвяціліся працаваць для дабра свайго бліжняга – свайго народу.

Прат. а. В. Кэндыш

### Сьвята 25-га Сакавіка ў Ню Ёрку

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Зь цяжкім сэрцам я пакідаў ўчора сьцены музычнай салі *Білтмор* гатэлю ў Ню Ёрку, гдзе ўжо ад даўжэйшага часу Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ладзіць урачыстыя сходы, прысьвечаныя ўгодкам прагалошаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сакавіковыя ўрачыстасьці заўсёды напаўнялі нас надзеяй і моцнай верай у лепшую будучыню нашага народу. Зусім інчай было ўчора! На тварах прысутных можна было заўважыць якоесь зьдзіўленьне й непрыкметнае азабочаньне. Адразу кожны прысутны заўважыў, што на салі было менш людзей як мінулыя гады, ды што два першыя рады крэслаў пуставалі, у той час калі звычайна, былі запоўнены гасьцямі й прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў, а сёлета ня было ні гасьцей і блізу ня было рэпрээзэнтантаў іншых народаў. На салі ня было ніводнага прадстаўніка Амэрыканскага Кангрэсу. Праўдападобна, Галоўная Управа БАЗА зусім зыгнаравала гэты важны мамэнт ды не паклапацілася запрасіць хоць бы аднаго Кангрэсмэна. Сёлета – выбарчы год, а беларусы, як грамадзяне З.Ш.А. мелі надзвычайную нагоду прасіць сваіх Кангрэсмэнаў прыняць удзел у Сакавіковых Урачыстасьцях ладжаных з нагоды 58-х Угодкаў Прагалошаньня Незалежнасьці БНР.

Кульмінацыйным пунктам каждага Сакавіковага Сьвята, сьвята Прагалошаньня Незалежнасьці БНР, былі рэзалюцыі, якія зачытваліся й прыймаліся ці адкідаліся Агульнвм Сходам. Сёлета ня было ніякай рэзалюцыі, а таму не чыталася й не прыймалася.

Пабаларуску чытала рэфэрат Спадарышня Раіса Станкевіч, ў якім многа мейсца й часу было ўдзелена Тадэушу Касьцюшку. Як вядома, Касьцюшка нічога ня меў супольнага зь беларускім нацыянальным рухам. Ён быў і застаўся да самай сваёй сьмерці адданым польскім патрыётам.

Чаму так сталася?

К. Канцавы

# Пагляд Інж. Уладзімера Тамашчыка (Арх. Васіля)

## НА ЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ТЭОРЫІ ЧАРСА ДАРВІНА Й ГЭРБЭРТА СПЭНСЭРА



*Інж. Уладзімер Тамашчык*

Біялягічным навукам на Палітэхніцы ў Празе Чэскай Уладзімер Тамашчык прысьвячаў найбольш увагі й часу. Апрача абавязкавых дысцыплінаў зь біялёгіі, хэміі, агрохэміі ён многа чытаў, наведваў спэцыяльныя аддзелы музэяў, пільна выконваў лабаратарыйныя заняткі й часта дапамагаў слабейшым студэнтам. Па заканчэньні студый на Аддзеле Аграноміі, Чэскай Палітэхнікі, Уладзімер Тамашчык атрымлівае дыплём Інжынера з асаблівым адзначэньнем з біялёгіі. Прафэсар Білэк запрапанаваў Інж. Тамашчыку працу Асыстэнта Зоолёгіі ў Інстытуце Зоолёгіі пры Чэскай Палітэхніцы. У 1946-м годзе Інж. Уладзімер Тамашчык працуе Лектарам Зоолёгіі ў Міжнародным Унівэрсытэце УНРА ў Мюнхене.

Уладзімер Тамашчык, яшчэ будучы студэнтам, вельмі крытычна ставіўся да Дарвінаўскай тэорыі натуральнага падбору альбо захаваньня. Дарвін, як ведама, цьвердзіў што вышэйшыя формы жывых арганізмаў, у тым ліку й чалавек, паўсталі зь ніжэйшых шляхам эвалюцыйных зьменаў, скрыжаваньня й падбору (сэлекцыі). Царква адкінула біялёгічную тэорыю Дарвіна ды й навука сяньня зь вялікім недаверам глядзіць на ягоныя высновы. Цьверджаньне Дарвіна, што чалавек паходзіць ад малпы ёсьць аснаўным запярэчаньнем хрысьціянскай дактрыны аб стварэньні чалавека па вобразу Бога. Тэорыя Дарвіна, нарэшце, была адкінутая й навукай, але ня гледзячы на гэта была выкарыстаная эвалюцыйнай сыстэмаю філязофіі пры канцы 19-га стагодзьдзя. Вынікам гэтага філязофскага кірунку быў занепад гуманізму ды пачатак натуральнага нігілізму які, на вялікі жаль, трывае й па сяняшні дзень.

Гэрбэрт Спэнсэр разам з Дарвінам былі заснавальнікамі мадэрнай эвалюцыйнай тэорыі. Спэнсыр у сваіх эвалюцыйных поглядах пайшоў далей за Дарвіна. У той час, калі, Дарвін толькі прыпадкова гаварыў аб агносцыцызме, то ў Г. Спэнсэра агносцыцызм быў цэнтральным пунктам ягонай маральнай дактрыны.

Маральнасьць, як мастацтва, казаў Спэнсэр асягае свае пазытыўныя вынікі ў агульнасьці й рознасьці. Найбольш выдатным прыкладам людзкой адзінкі ёсьць той, хто ўключае ў сабе найбольшую колькасьць розных разуменьняў, тэорый ды паўнату жыцьця.

Этычныя прынцыпы павінны быць іншымі, гаварыў Г. Спэнсэр. Яны павінны, шляхам эвалюцыйных зьменаў, замяніць рэлігійна-традыцыйныя асновы на прынцыпы „натуральнай этыкі". Новая этыка павінна будавацца на законах біялёгіі, гаварыў Г. Спэнсэр.

У. Тамашчык ня мог пагадзіцца з думкамі выдатнага філёзафа-натуралістага. Этыка Спэнсэра казаў ён, „Есьць вузкай без пачуцьця й бяз Бога, ў аснове якое пераважае сацыяльны імпульс."

М. Гарошка

### НОВАПАСТАЎЛЕНЫ МІТРАПАЛІТ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Новапастаўлены Галава Праваслаўнай Царквы ў Савецкай Беларусі Мітрапаліт Антоні ня быў выбраны Саборам Праваслаўнага Духавенства БССР, а быў назначаны Маскоўскім Патрыярхам на прапанову Маскоўскага Н.К.В.Д. для мэтаў, больш, палітычных, як рэлігійных.

27-га студзеня 1976-га г. адбылася



*Антоні, Мітрапаліт Савецкай Беларусі*

### ПАСТАНОЎКА БЕЛАРУСКІХ КАЛЯДАЎ НА ТЭЛЕВІЗЫІ Ў ДЭТРОЙЦЕ

Уражаньне ад пастаноўкі Беларускіх Калядаў ды перадачы на станцыі №2 T.V. у Дэтроіце было над усе спадзяваньні ўдачным. Традыцыйныя Беларускія Каляды зь зацікаўленьнем бачылі на тэлевізыйным экране ў Дэтроіце й некаторых частках паўдзённай Канады. Пастаноўка каротка-мантажнага фільму была зарганізавана й выканана ўласнымі беларускімі сіламі ў Дэтроіце. Галоўнымі дэбютантамі былі: Інж. Янка Бруцкі й Спадарыня Вара Сажыц.

Ўстаноўчая Конфэрэнцыя *Беларускага Таварыства Радзіма* для культурных сувязяў з суайчыньнікамі за рубяжом. Не малая роля, пры гэтым, была прыдзелена й Новапастаўленаму Мітрапаліту Антоню. Выступаючы на Ўстаноўчай Конфэрэнцыі *Таварыства Радзіма,* Мітрапаліт сказаў: „Царква падтрымлівае стварэньне *Беларускага Таварыства Радзіма,* таму што яна заўсёды падтрымлівае ўсе добрыя справы Савецкага ўрада".

Л. З–скі